

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№8 (жнівень), 2016

# Мяжа




**У Скоках адсвяткавалі дзень Берасця**

(старонка 6)

## ЗЬМЕСТ

# Незалежны прафзвяз дапамог рабочаму атрымаць больш за 1600 рублёў

Суд таксама змяніў фармулёўку прычыны звальнення.

Змена фармулёўкі звальнення і спагнанне з працадаўцы на карысць работніка больш за 1 600 (16 мільёнаў недамінаваных рублёў) – такую пастанову прыняла 25 ліпеня 2016 года калегія ў грамадзянскіх справах Берасцейскага абласнога суда паводле касацыйнай скаргі сябра прафзвязу РЭП Аляксандра Краўчука да ТДА «Полі-Сэрвіс».

Пра гэта praca-by.info паведаміла старшыня Берасцейскай гарадской арганізацыі прафзвязу РЭП Аляксандра Гурына.

Чалец прафзвязу РЭП Аляксандр Краўчук быў прыняты ў ТДА «Полі-Сэрвіс» у 2014 годзе інжынерам-механікам па кантракце. Пазней яго перавялі на пасаду механіка. Падчас працы наймальнік перыядычна парушаў умовы кантракту: затрымліваў заробак, не ў час плаціў камандзіровачныя.

- Я неаднаразова звяртаўся да свайго кіраўніка з просьбай выплачваць мне камандзіровачныя да паездкі ў службовых даручэннях, але ўсё заставалася па-старому. Тады я папрасіў скасаваць кантракт у сувязі з парушэннем умоў, але адказу не атрымаў, - распавёў Аляксандр Краўчук.

Работніку нічога не заставалася, як звярнуцца ў Берасцейскую абласную ўправу Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы з просьбай ужыць захады да наймальніка, які парушыў Працоўны Кодэкс, умовы кантракту і закон «Аб звароце грамадзян і юрыдычных асобаў».

29 красавіка 2016 года Аляксандр атрымаў адказ з Управы з пацвярджэннем усіх выкладзеных ім фактаў. Пасля чаго работнік напісаў заяву аб датэрміновым скасаванні кантракта паводле артыкула 41 ПК РБ у сувязі з парушэннем наймальнікам заканадаўства аб працы і паводле ўсіх правілаў зарэгістраваў яго ў аддзеле кадраў. Аднак у канцы працоўнага дня Аляксандра выклікалі і азнаёмілі з загадам аб звальненні з працы не ў сувязі з названай у яго заяве прычынай, а за прагулы, нібыта зробленыя ім 1 і 29 красавіка.

- Справа ў тым, што 1 красавіка 2016 года я адсутнічаў на працы з уважлівай прычыны, дырэктар накіраваў мяне ў камандзіроўку з 31 сакавіка да 1 красавіка. Дарэчы, як і раней, грашовы аванс для выплаты транспартных выдаткаў на праезд да месца службовай камандзіроўкі і назад і сутачныя выдадзены не былі. А 29 красавіка 2016 года на вусны загад кіраўніка выконваў свае непасрэдныя абавязкі механіка - атрымліваў пашпарты на будаўнічыя краны, - растлумачыў Аляксандр.

Сутыкнуўшыся з такой самаўпраўнасцю, работнік пайшоў у прафзвяз.

Прававы інспектар прафзвязу РЭП Уладзімір Малей накіраваў у суд Ленінскага раёна Берасця пазоў з просьбай прызнаць незаконным звальненне Аляксандра Краўчука, змяніць фармулёўку прычыны звальнення, а таксама спагнаць з адказчыка на карысць работніка мінімальную кампенсацыю за скасаванне кантрактнай формы найму сумай трох сярэднямесячных заробкаў і кампенсацыю маральнай шкоды.

Аднак раённы суд у пазове работніку адмовіў.

Тады прафзвяз падаў касацыйную скаргу ў Берасцейскі абласны суд. Судовая калегія ў грамадзянскіх справах абласнога суда задаволіла патрабаванні заяўніка аб змене фармулёўкі прычыны звальнення са «звольнены за прагул без уважлівых прычын» на «звольнены на патрабаванне работніка ў сувязі з парушэннем наймальнікам заканадаўства аб працы».

Акрамя таго, суд абавязаў наймальніка выплаціць работніку тры сярэднемесячныя заробкі (1 500 рублёў) у якасці кампенсацыі за скасаванне кантракту, кампенсацыю маральнай шкоды сумай 100 рублёў і 52 рублі сярэдняга заробку за пратэрміноўку разліку пры звальненні. У суме выплаты складуць больш за 1600 рублёў.

- За час дзеяння Дэкрэта №29 кантрактная сістэма найму атрымала ў народзе назву «прымусовай» і нават «рабскай», але і яе можна перамагчы, калі прафзвяз займаецца сваімі прамымі абавязкамі - абаронай законных правоў і інтарэсаў працоўных, - пракаментавала перамогу работніка і прафзвязу Аляксандра Гурына.

https://charter97.org/be/news/2016/8/2/216455/#

# Кобрын: каб стаць "заўважным" для мясцовай раёнкі, Алесь Мех пікет па збору подпісаў правёў каля рэдакцыі



Рашэнне правесці пікет па зборы подпісаў каля рэдакцыі раённай газеты "Кобрынскі веснік" у прэтэндэнта ў кандыдаты Алеся Меха ўзнікла ў выніку таго, што газета не толькі ўпарта "не заўважала" працу ягонай ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў, але і не адказала нават на ліст, які спадар Мех накіраваў у рэдакцыю з пратэстам супраць аднабокага асвятлення пікетаў па збору подпісаў.

Кобрын. Пікет па зборы подпісаў за вылучэнне Алеся Меха каля рэдакцыі

Алесь Мех з сябрамі ініцыятыўнай групы размясцілі пікет проста каля дзвярэй рэдакцыі газеты. Здзіўленыя журналісты назіралі праз вокны. Пра нейкі момант да іх выскачыла журналістка Людміла Пашковіч і спытала, што тут такое адбываецца. Прэтэндэнт кандыдаты патлумачыў, што такое месца выбрана таму, што журналісты раённага выдання не бачаць яго штодзённых пікетаў па гораду, затое ўбачылі пікет праўладнага вылучэнца. Алесь Мех папрасіў журналітску прынесці фотаапарат і дыктафон, што яна і

зрабіла.

Па словах Меха, журналістка сфатаграфавала пікет і запісала яго каментар. А вось ці з’явіцца інфармацыя на старонцы газеты “Кобрынскі веснік”, пакажа бліжэйшы нумар.

http://spring96.org/be/news/84169

## У Скоках адсвяткавалі дзень Берасця

Гулянні, прысвечаныя Дню Горада, на выходных праходзяць не толькі ў Берасці, але і ў Берасцейскім раёне. Месцам правядзенння святочных мерапрыемстваў традыцыйна стала мястэчка Скокі, што знаходзіцца ў некалькі кіламетраў ад абласнога цэнтра. Гэта і не дзіва, бо ў Скоках месціцца адрэстаўраваная сядзіба Нямцэвіча.




На свяце былі чыноўнікі Берасцейскага раёна, школьнікі (не забываем, што зараз час вакацыяў) і ветэраны. Не дзіва, што на свята запрасілі ветэранаў, бо Дзень горада прымеркаваны да дня вызвалення Берасця ад нямецка-фашыскіх захопнікаў, таму ўспамінаў пра вайну і Перамогу было нямала. Хаця варта адзначыць, акрамя ваеннай тэматыкі і памяці аб ВАВ пачынае з’яўляцца і

нацыянальны каларыт: можа было пабачыць у нацыянальных і рыцарскіх строях удзельнікаў святочнага мерапрыемтсва, жадаючыя маглі набыць беларускія рушнікі ды паслухаць у выкананні вайсковага аркестра “Купалінку”.

Усё ж такі Скокі, месца звязанае з вядомым дзеячам , ад’ютантам Касцюшкі, Юльянам Урсынам Нямцэвічам і лагічна, каб яму было б прысвечана увагі больш чым тры стэнды на расейскай мове. Да прыкладу, чаму камуністычны помнік Каліміну, не замяніць на помнік свайму нацыянальнаму герою , пісьменнніку Юльяну Урсыну Нямцэвічу.

## Брэсцкая вобласць: найменьш вылучаюць кандыдатаў партыі, якія найбольш прадстаўленыя ў камісіях

У 16-ці выбарчых акругах у Брэсцкай вобласці вылучана 79 прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат. Як адзначылі ў абласной выбарчай камісіі, увогуле ў акруговыя выбаркамы трапілі 100 камплектаў дакументаў, бо некаторыя з верагодных кандыдатаў вырашылі вылучацца адразу некалькімі спосабамі.

Амаль палова прэтэндэнтаў (46%) падалі ў акруговыя камісіі дакументы на вылучэнне ад палітычных партый, 30% - шляхам збору подпісаў, а 24% - ад працоўных калектываў.

З палітычных партый найбольшую актыўнасць на гэтым этапе выбарчай кампаніі праявілі прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), ад якой кандыдатамі вылучана 11 чалавек. Па 8 вылучэнцаў маюць Беларуская партыя левых “Справядлівы свет” і Ліберальна-дэмакратычная партыя, 7 патэнцыяльных кандыдатаў прадстаўляюць Партыю БНФ, 6 - Аб'яднаную грамадзянскую партыю, па 2 – Беларускую патрыятычную партыю, Рэспубліканскую партыю працы і справядлівасці, а таксама Камуністычную партыю Беларусі.

Звяртае на сябе ўвагу цікавая акалічнасць: у склад участковых выбарчых камісій, нават пры вельмі сціплай прысутнасці прадстаўнікоў палітычных партый (1,1% ад агульнай колькасці усіх сябраў участковых выбаркамаў), трапіла куды больш прадстаўнікоў тых партый, якія былі мінімальна задзейнічаны ў працэсе вылучэння

ўласных кандыдатаў у дэпутаты. Так, КПБ у складзе ўчастковых выбарчых камісій мае 59 сваіх сябраў, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці – 31. Для параўнання: ад БСДП (Грамада) і Партыі БНФ у гэтыя камісіі трапілі па аднаму чалавеку, ад АГП – два, ад Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" – сем.

Найбольшая канкурэнцыя чакаецца ў Брэсцкай-Усходняй акрузе №3, дзе дакументы на вылучэнне падалі восем прэтэндэнтаў, а таксама ў Брэсцкай-Цэнтральнай акрузе №2 і Бярозаўскай акрузе №9 – па сем патэнцыяльных кандыдатаў. У чатырох акругах (Баранавіцкая сельская №7, Пінская гарадская №14, Пінская сельская №15 і Столінская №16) вылучана па тры асобы.

http://spring96.org/be/news/84210

## Фаварыты выбарчаў гонкі ў Брэсцкай-Цэнтральнай выбарчай акрузе № 2 – вылучэнцы працоўных калектываў

У акруговую выбарчую камісію Брэсцкай-Цэнтральнай выбарчай акругі № 2 7 прэтэндэнтаў у кандыдаты ў дэпутаты ПП НС РБ падалі дакуманты на рэгістрацыю, з іх:

4 прэтэндэнты былі вылучаныя палітычнымі партыямі (Амелянчук Ірына – ПБНФ, Макул Вадзім – ЛДП, Петрусевіч Фёдар – АГП, Шчэрба Аляксандр – БПЛ "Справядлівы Сьвет");

2 прэтэндэнты былі вылучаныя працоўнымі калектывамі (дырэктар УА "Брэсцкі дзяржаўны абласны цэнтр моладзевай творчасці" Васіленка Іван працоўным калектывам ААТ "Брэсцкі электралямпавы завод", і намеснік старшыні Сталай камісіі ПП НС РБ па ахове здароў'я, фізічнай культуры, сямейнай і моладзевай палітыцы Мілашэўскі Валянцін працоўнымі калектывамі УАЗ "Брэсцкі абласны радзільны дом" і УАЗ "Брэсцкая цэнтральная паліклініка". 222 члены ягонай ініцыятыўнай групы сабралі за свайго вылучэнца больш за 1900 подпісаў!

Прэтэндэнту ў кандыдаты ў дэпутаты Палянскаму Даніілу, які збіраў подпісы за сваё вылучэнне, было адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдатам, бо ў сваёй дэкларацыі не пазначыў 2 аўтамабілі 1980 і 1981 гадоў выпуску.




*З лева на права, кандыдаты Валянцін Мілашэўскі (ад працоўнага калектыву), Аляксандр Шчэрба (ад БПЛ "Справядлівы Сьвет") і Іван Васіленка – (ад працоўнага калектыву)*

Прэтэндэнт мае намер абскардзіць нерэгістрацыю, бо аўтамабілі, на ягоную думку, надта старыя, даўно прададзеныя і ім забытыя;

## Берасцейскі кандыдат распавядзе пра карупцыю

Распавядаць пра карупцыю і адсутнасць сумленных выбараў у краіне будзе цягам агітацыйнай кампаніі берасцейскі блогер, незалежны кандыдат Сяргей Пятрухін. Ён балатуецца па выбарчай акрузе №1. Першыя пікеты ў падтрымку блогера ў Берасці з’явяцца 15-га жніўня. Кандыдат адзначае, што агітацыйная кампанія будзе мець нечаканы для выбаршчыкаў фармат:

— Мы ўсё ўжо пачалі і праграму размясцілі, адкрываем рахунак у банку. Мы да ўсяго гатовыя: радыё, тэлебачанне, дэбаты. Я думаю, што пікеты мы пачнём рабіць з 15-16 жніўня: агітаваць актыўна і можна сказаць агрэсіўна, бо мы прыдумалі незвычайны ход для сваіх пікетаў, з якім людзі азнаёмяцца. Я мяркую ён будзе вельмі дзейсным.

Як падкрэсліў Сяргей Пятрухін, на сваіх пікетах ён плануе выкарыстоўваць фільмы пра дзейнасць чыноўнікаў, якія ён зняў, і арганізоўваць на гэтыя тэмы дыскусіі з грамадзянамі.

http://www.racyja.com/palityka/berastsejski-kandydat-raspavyadze-pra/

## У Брэсце кандыдату ў дэпутаты не дазволілі друкаваць праграму ў газеце

Кандыдат у дэпутаты Ігар Маслоўскі сутыкнуўся з тым, што рэдакцыя газеты "Вечерний Брест" адмовілася друкаваць яго выбарчую праграму на сваіх старонках.

Адмову падпісала выканаўца абавязкаў рэдактара Н.Васюк. Перасцярогу ў рэдакцыі выклікаў наступны пасаж у праграме Маслоўскага:

"Не падтрымлівайце на выбарах лекараў, ваенных і іншых добрых людзей — яны кандыдаты ад улады. Усе яны добрыя людзі пакуль на сваім месцы, але ўсе яны залежныя ад начальства і ператвараюцца ў "дрэнных" дэпутатаў! Гэтыя "добрыя" людзі галасуюць за тое, што ім скажуць. Менавіта з іх маўклівай згоды павысілі пенсійны ўзрост, пазбавілі стажу тых, хто служыў у войску, быў у дэкрэтным адпачынку, вучыўся ва ўніверсітэце і г.д. Менавіта яны падтрымалі падатак на беспрацоўных і нічога не зрабілі для стварэння новых працоўных месцаў".

На думку Васюк, гэтая заява можа расцэненьвацца, "як абраза на адрас людзей розных прафесій". Таму яна прапанавала кандыдату ў Палату прадстаўнікоў змяніць фармулёўку ў перадвыбарчай праграме.

Маслоўскі заявіў, што будзе абскарджваць гэтую адмову ў адпаведнасці з заканадаўствам. на яго думку, гэты выпадак сведчыць пра цэнзуру, што забаронена законам.

http://euroradio.fm/u-bresce-kandydatu-u-deputaty-ne-dazvolili-drukavac-pragramu-u-gazece

## Выбарчая кампанія ў Бярозаўскім раёне працягваецца

Кандыдат у дэпутаты па Івацэвіцкай выбарчай акрузе нумар 11 Валянцін Лазарэнкаў сваю агітацыйную кампанію вядзе праз праблемы людзей. Гэта адна з тых невялікіх магчымасцяў, якія мае дэмакратычны кандыдат, каб бесперашкодна сустрэцца з людзьмі. Паколькі ў працоўных калектывах улады спрыяюць толькі свайму кандыдату. Па словах Лазарэнкава, людзі чакаюць ад яго дапамогі, а ён аказвае яе цягам усіх гадоў пасля выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў 2012-га году:

— Я сустрэўся з шэрагам прадстаўнікоў у Івацэвіцкім раёне. Гэта тыя, хто пражывае на вуліцы Скарыны і на вуліцы Касцюшкі. Я ўжо папярэдзіў асобаў з райвыканкама, што дзве вуліцы, а бруд як у кароўніках е 60-гадах, калі ні дарог нічога не было. Грамадзяне у рамках кампаніі «За наш горад» сабралі і перадалі у Белаазёрскі гарвыканкам і у Бярозаўскае ДАІ праблему з пэўным участкам, які не адпавядае сённяшнім стандартам.

Валянцін Лазарэнкаў кажа, што цяпер вырашае пытанне з улёткамі і іншымі матэрыяламі, якія трэба раздаваць людзям. З яго праграмай выбаршчыкі могуць пазнаёміцца ў раённых газетах Івацэвіч і Бярозы.

http://www.racyja.com/hramadstva/vybarchaya-kampaniya-u-byarozauskim-rayon/

## У Брэсце кандыдат ад “Справядлівага свету” падчас тэлевыступу заклікаў вярнуць ўладу саветам дэпутатаў

“Мы даўно ўжо не абіраем ўладу - яна сама сябе прызначае. Таму самы час узгадаць, што па Канстытуцыі народ - адзіная крыніца ўлады”, - пра гэта заявіў у тэлевізійным звароце кандыдат у дэпутаты па Брэсцкай-Усходняй выбарчай акрузе №3, сябра Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Аляксей Лубкоў.

Падчас выступу ў эфіры тэлерадыёкампаніі “Брэст” на канале “Беларусь 3” Лубкоў таксама адзначыў, што варта вярнуць ўладу саветам дэпутатаў і “быць гаспадарамі ва ўласным двары, горадзе, краіне”. Ён таксама адзначыў, што ў Беларусі расце беспрацоўе, павялічваюцца кошты, скарачаецца фінансаванне медыцыны і адукацыі. “Нам тлумачаць, што грошай у бюджэце не хапае. Але мы плацім падаткі, і ніхто не пытаецца ў нас, як лепш выкарыстоўваць гэтыя грошы і чаму, атрымаўшы беларускія заробкі, амаль усё аплочваем па сусветных коштах”.

Аляксей Лубкоў не абмінуў у сваім тэлезвароце адну з самых вялікіх лакальных праблемаў для Брэста – недахоп месцаў у дзіцячых садках. Па словах Лубкова, Маскоўскі раён горада з'яўляецца лідэрам у краіне па гэтаму паказчыку, бо сваёй чаргі чакаюць каля 3 тысяч маленькіх жыхароў Брэста.

Што да цяперашняга складу Палаты прадстаўнікоў, дык кандыдат ад партыі “Справядлівы свет” распавёў пра вынікі апытання сярод жыхароў горада, паводле якога 90% апытаных не змаглі ўзгадаць прозвішча свайго дэпутата, а тым больш ацаніць яго працу.

http://spring96.org/be/news/84505

## «Адкрытыя» выбары абмяжоўваюцца паўнамоцтвамі

Пабачыць працэс праверкі подпісаў членамі выбарчай камісіі назіральнік ад БХК Уладзімір Вялічкін на ўласныя вочы так і ня змог.



Величкину В.А.
[redacted]
г. Брест

Уважаемый Владимир Александрович!

Окружная избирательная комиссия Брестского-Центрального избирательного округа № 2 по существу Вашего заявления от 2 августа 2016 г. сообщает.

В статье 13 Избирательного кодекса Республики Беларусь содержится исчерпывающий перечень полномочий, которые предоставляются наблюдателю. Таким образом, Ваша просьба выходит за рамки полномочий, указанных в данной статье и не может быть удовлетворена.

В случае несогласия с ответом Вы вправе обжаловать его в Брестскую областную территориальную избирательную комиссию по выборам депутатов Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь (г.Брест, ул.Ленина, 13, каб. 110).

Председатель окружной избирательной комиссии Брестского-Центрального избирательного округа № 2 — Г.А.Янголенко



Да пачатку праверкі подпісаў у падпісных лістах назіральнік 2 жніўня на пасяджэнні Брэсцкай Цэнтральнай выбарчай акругі № 2 спачатку у вуснай форме звярнуўся да камісіі з просьбай даць яму магчымасць прысутнічаць пры праверцы подпісаў і спаслаўся на артыкулы 65 Канстытуцыі і 13 Выбарчага Кодэкса, дзе гарантавана, што «выбары праходзяць адкрыта і галосна».

У камісіі адбылося азнаямленне са зместам 13 артыкула. Выявілася, што артыкуле няма забароны прысутнічаць пры праверцы подпісаў, але і няма прапісанага дазволу прысутнічаць назіральніку

пры праверцы подпісаў.

А таму камісія прыняла рашэннне не дапускаць назіральніка дагэтага «адкрытага» працэсу. Назіральнік пажадаў атрымаць пісьмовы адказ. Ужо 5 жніўня ён атрымаў адказ з акруговай камісіі: «У артыкуле 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь утрымліваецца поўны пералік паўнамоцтваў, якія прадастаўлены назіральніку. Такім чынам Ваша просьба выходзіць па-за рамкі паўнамоцтваў, вызначаных у дадзеным артыкуле і не можа быць задаволена».

## «Я думаў старшыню выбарчай камісіі абіраюць на першым сходзе членаў камісіі,

а апынулась, што іх прызначае выканкам», - сказаў выбаршчык Сяргей Вакуленка, калі прачытаў пастанову «Аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце свайго звароту» датаваную 5 жніўня 2016 года.




УТВЕРЖДАЮ
Начальник
ОВД администрации
Московского района г. Бреста
полковник милиции
С.С.Старикевич
«5».08.2016

ПОСТАНОВЛЕНИЕ

05.08.2016

г.Брест

Об отказе в возбуждении уголовного дела по факту обращения Вакуленко С.Н.

Участковый инспектор милиции ООПП ОВД администрации Московского района г.Бреста капитан милиции Р.Н.Трофимук, рассмотрев материал проверки, зарегистрированный в Единой книге регистрации заявлений и сообщений о преступлениях, административных правонарушениях и информации о происшествиях ОВД администрации Московского района г.Бреста под № 9431 от 26.07.2016

УСТАНОВИЛ:

27.05.2016 в ОВД администрации Московского района г.Бреста для проведения проверки предусмотренной законом «Об обращениях граждан и юридических лиц» поступило письменное заявление гражданина Вакуленко Сергея Николаевича, проживающего по адресу: г.Брест, ул. Лактионова, д.30, кв.15 в котором он просит провести проверку и привлечь к установленной законом ответственности председателя Московской районной комиссии по выборам Президента Республики Беларусь Янголенко Галину Андреевну, которая единолично рассмотрела его обращение от 13.10.2015, тем самым, по его мнению превысила свои полномочия.

В ходе проведения проверки установлено, что заявитель 13.10.2015 подал жалобу в Московскую районную комиссию по выборам Президента Республики Беларусь на действия избирательной комиссии участка №76. Данная жалоба была зарегистрирована, и Вакуленко С.Н., был дан письменный ответ за подписью Янголенко Г.А., Вакуленко С.Н., данные действия считает незаконными и противоречащими нормам Избирательного кодекса Республики Беларусь, так как его обращение должно было рассмотрено коллегиально.

Будучи опрошенной в своём объяснении, Янголенко Г.А., пояснила, что согласно решения Брестского горисполкома назначена председателем Московской районной комиссии по выборам Президента Республики Беларусь. 13.10.2015 ей на рассмотрение поступило обращение гражданина Вакуленко С.Н. на действия избирательной комиссии участка для голосования №76. Данное обращение было рассмотрено и, Вакуленко С.Н., был дан письменный ответ, за её подписью.

27.06.2016 по обращению Вакуленко С.Н. было вынесено заключение о прекращении проверки, однако в связи с жалобой Вакуленко С.Н. в УВД Брестского областного исполнительного комитета данное заключение было отменено для проведения дополнительной проверки и принятия решения в порядке предусмотренном УПК Республики Беларусь.

В ходе проведения дополнительной проверки, будучи опрошенной в своём объяснении, Янголенко Г.А., указала, что поступившее 13.10.2015 обращение гражданина Вакуленко С.Н. было рассмотрено участковой избирательной комиссией. По результату рассмотрения, Вакуленко С.Н., был проинформирован надлежащим образом в установленной законодательством форме, а именно ему был направлен письменный ответ за подписью Янголенко Г.А. как председателя. Каких-либо целей скрыть от членов комиссии нарушений по рассмотрению жалобы Вакуленко С.Н., Янголенко Г.А., не преследовала.

На основании вышеизложенного в действиях неустановленного лица состав преступления, предусмотренного ч.1 ст.426 УК Республики Беларусь «Превышение власти или служебных полномочий», отсутствует, так как превышение власти или служебных полномочий может выражаться только в активных действиях. Превышение власти или служебных полномочий влечет уголовную ответственность, если это повлекло причинение ущерба в крупном размере или существенный вред правам и законным интересам граждан либо государственным или общественным интересам, что при проведении проверки выявлено не было.

Учитывая вышеизложенное, на основании п.2 ч.1 ст.29, руководствуясь ст.ст.174, 178 УПК Республики Беларусь,

ПОСТАНОВЛЯЮ:

1. В возбуждении уголовного дела в отношении Янголенко Г.А. отказать за отсутствием в его действиях состава преступления, предусмотренного ч.1 ст. 426 УК Республики Беларусь.

2.Копию настоящего постановления направить прокурору г.Бреста и гр-ну Вакуленко С.Н.

- У гэтай пастанове са словаў старшыні выбарчай камісіі Галіны Янголенка запісана:

«... адпаведна рашэння Брэсцкага гарвыканкама прызначана

старшынём Маскоўскай раённай камісіі па выбарам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, ...».

- Гэтак яна патлумачыла, калі яе апытваў участковы інспектар міліцыі АГПП АЎД адміністрацыі Маскоўскага раёна г. Брэста капітан міліцыі Трафімук, які вынес пастанову, - паведаміў выбаршчык.

## Ігар Маслоўскі дамогся публікацыі ў „Вячэрнім Брэсце” сваёй перадвыбарнай праграмы

Кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігар Маслоўскі дамогся публікацыі ў рэгіянальнай газеце „Вячэрні Брэст” сваёй перадвыбарнай праграмы.

Як паведаміў Маслоўскі, яна без якіх-небудзь змяненняў надрукавана ў нумары газеты, які выйшаў 24 жніўня.

Раней „Вячэрні Брэст” адмовіўся публікаваць яго перадвыбарную праграму. Падставай стаў заклік да выбаршчыкаў не падтрымліваць кандыдатаў ад улады.

У прыватнасці, у праграме кандыдата гаворыцца: „Не падтрымлівайце на выбарах урачоў, ваенных і іншых добрых людзей — яны кандыдаты ад улады. Усе яны добрыя людзі, пакуль на сваім месцы, але ўсе яны залежныя ад начальства і ператвараюцца ў „дрэнных” дэпутатаў! Гэтыя „добрыя” людзі галасуюць за тое, што ім скажуць. Менавіта з іх маўклівай згоды павысілі пенсійны ўзрост, пазбавілі стажу тых, хто служыў у арміі, быў у дэкрэтным адпачынку, вучыўся ва ўніверсітэце і г.д. Менавіта яны падтрымалі падатак на беспрацоўных і нічога не зрабілі для стварэння новых працоўных месцаў”.

З адказу, падпісанага выканаўцай абавязкаў рэдактара газеты, вынікала, што гэта „можа быць расцэнена як абраза ў адрас людзей розных прафесій”. Кандыдату было прапанавана змяніць фармулёўку.

„Пісьмовую адмову мы атрымалі 16 жніўня. На наступны дзень я звярнуўся з вуснай скаргай у акруговую выбарчую камісію, дзе зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты, — сказаў Маслоўскі. — Праз два дні мне патэлефанавалі і запэўнілі, што праграма будзе

апублікаваная так, як я яе напісаў”.

На думку Маслоўскага, газета перастрахавалася.

„У СМІ, заснавальнікамі якіх з’яўляюцца дзяржструктуры, уладу не крытыкуюць. Але я лічу, такая крытыка павінна быць нормай, каб улада ведала меркаванне сваіх апанентаў, а галоўнае, адэкватна на яго рэагавала”, — заявіў палітык.

Старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі сацыял-дэмакратаў Ігар Маслоўскі зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты ў Брэсцкай-Пагранічнай выбарчай акрузе № 4.

http://www.racyja.com/palityka/igar-maslouski-damogsya-publikatsyi-u-v/

## Уласнаручна вырабленая копія выніковага пратакола – гэта “фількіна грамата”!

23 жніўня ў актавай зале СШ № 24 г. Брэста адбыўся трэнінг для членаў вучастковых выбарчых камісій.

У зале прысутнічалі прадстаўнікі 3 выбарчых акруг Маскоўскага раёна г. Брэста.




На пачатку трэнінга выступіла старшыня АВК 2 Галіна Янголенка, якая параіла прысутным правесці трэнінгі ва участковых камісіях пры дапамозе адпаведнага дапаможніка распрацаванага ЦВК.

Назіральніка ад БХК, які прысутнічаў на трэнінгу, зацікавіў момант

выбараў звязаны з фатаграфаваннем, на які звярнула ўвагу старшыня АВК 2 Галіна Янголенка напрыканцы трэнінгу, і копіяй выніковага пратаколу.

Копіі выніковага пратаколу, зацьверджаныя подпісамі членаў УВК, назіральнікам не выдаюцца. Адна вывешваецца на вучастку для "ўсеагульнага" азнаямлення, але ж ноччу людзі спяць, а раніцай прыбіральшчыца прыбірае гэтую копію. На гэтым "усеагульнае" азнаямленне заканчваецца.

Назіральнік можа ўласнаручна вырабіць копію, гэткую "фількіну грамату", юрыдычна нікчэмную паперку. З якой над табой пасмяюцца ў судзе.

Застаецца адзіная магчымасць зрабіць копію копіі выніковага пратакола з дапамогай фотаапарата…

## Кіраўніцтва місіі па назіранні за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ сустрэліся з назіральнікам кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары"

24 жніўня кіраўніца місіі па назіранні за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ Тана дэ Зэлуэта, спецыяліст па палітычных справах Стэфан Швед, 2 доўгатэрміновых назіральніка місіі Дыяна Франка Ферары і Ганс Опсал сустрэліся з назіральнікам кампаніі "Праваабаронцы за свабодныя выбары" Уладзімірам Вялічкіным.

Кіраўніцтва місіі цікавіла спецыфіка бягучых выбараў, на колькі свабодны выбарчы працэс, на што спадзяецца беларускае грамадства ў выніку выбараў і шэраг іншых пытанняў.

Што да доўгатэрміновых назіральнікаў, дык яны працуюць у Берасьці ад сярэдзіны жніўня, ужо правялі шмат сустрэч з удзельнікамі выбарчага працэса…

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»